№ 92 (3935)

25 лістапада 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**



ВЧЕРА




# Стоп-меры

***С понедельника, 24 ноября, Россия ужесточила условия транзита растительной продукции из Беларуси. Причина — подозрение на контрабанду из "запрещенных" стран.***



Об усилении контроля за растительной продукцией, ввозимой из Беларуси, сообщила пресс-служба Россельхознадзора. Теперь все грузовики, включая транзитные, будут проверяться на российской границе, даже после проверок белорусскими таможенниками. Такое распоряжение направлено в территориальные управления Россельхознадзора, а также в компетентные органы Беларуси. Помимо этого, руководитель "Россельхознадзора" **Алексей Алексеенко** сообщил газете "Ведомости", что в скором времени аналогичным образом планируется проверять продукцию животного происхождения.

*"Мониторинг, проводимый в рамках мероприятий по предотвращению нелегальных поставок продукции через Беларусь в обход введенных Россией ответных экономических мер, выявил более 11 тысяч тонн плодоовощной продукции, произведенной в странах Евросоюза, поставленных из Беларуси якобы в Казахстан, но "задержавшихся" в России. Это количество представляет собой более 10% от общего объема продукции, перемещаемой с территории Беларуси",* — говорится в сообщении "Россельхознадзора".

Намеки на то, что Россия не намерена терпеть контрабанду товаров через Беларусь, появились еще летом. В частности, **Александр Лукашенко** на встрече с премьер-министром Беларуси **Михаилом Мясниковичем** заявил: *"Разговаривая с президентом России, мы вели речь о защите, как он сказал, российского рынка. То есть мы должны исполнить свои обязательства по защите союзного рынка (у нас единая таможня в таможенном пространстве) в части транзита грузов с Запада через Беларусь на российскую территорию. Если Россия закрыла свой рынок для определенных товаров, то мы эти товары транзитом через Беларусь в Россию пропускать не должны".*

Не должны-то не должны, но на кону большие прибыли. Купить польские яблоки и поставить их в Россию — это ведь проще, чем вырастить яблоки в Беларуси, сохранить их, довести до товарного вида и уже потом продать.

## КСТАТИ

Комментируя августовское решение **Владимира Путина** запретить в Россию ввоз продовольствия из ЕС, США, Канады, Японии, Австралии в ответ на западные санкции, первый замминистра сельского хозяйства и продовольствия Беларуси **Леонид Маринич** не удержался от эмоциональной реплики: *"Для нас это Клондайк. Мы готовы заменить западные страны по многим позициям в части продовольствия".*

Однако теперь, три месяца спустя, выяснилось, что Беларусь недосчиталась денег, несмотря на увеличение поставок.

*"Тот объем продовольствия, который идет в Россию, в физическом выражении растет, но в долларовом эквиваленте падает из-за девальвации российского рубля",* — признал министр сельского хозяйства и продовольствия **Леонид Заяц.**

Премьер Михаил Мясникович в свою очередь сообщил, что Беларусь из-за девальвации российского рубля на поставках сельхозпродукции недосчиталась 160 миллионов долларов.

**Игорь МОРОЗОВ.**

СКАНДАЛ

# У Беларусі ўжо забаранілі ўкраінскія сцягі?

*Днямі ў сталіцы прайшоў канцэрт украінскага гурта "Океан Эльзи". На ўваходзе ў "Мінск-Арэну" міліцыя чамусьці забараняла гледачам праносіць дзяржаўныя ўкраінскія сцягі.*

Гэты факт здзівіў і абурыў нават украінскі МЗС, які пасля канцэрта звярнуўся ў МЗС Беларусі з просьбай растлумачыць інцыдэнт.

*"МЗС Беларусі, калегі, гэта нармальна? Няўжо ўкраінскі сцяг забаронены ў Беларусі?"* — напісаў прадстаўнік украінскага МЗС **Яўген Перабійніс** на старонцы МЗС Украіны ў Twitter, дадаўшы спасылку на відэа YouTube, дзе відаць, як супрацоўнік МУС Беларусі адбірае ўкраінскі сцяг у адной з дзяўчат.

Пазней пад гэтым запісам з'явіўся каментарый беларускага МЗС: *"Паводле дадзеных МУС, калі на канцэрце аншлаг, тое самае было б і з нашым сцягам, каб не замінаў гледачам. Любяць у нас "Океан Эльзи"!"*

А вось намеснік гендырэктара "Мінск-Арэны" **Мікалай Сергіенка** палічыў дзеянні праваахоўнікаў "абсалютна правільнымі".

*"Паводле правіл, на "Мінск-Арэне" правядзенне розных мітынгаў, маніфестацый, рэкламных акцый, не ўстаноўленых дамоўнымі адносінамі, забаронена,* — заявіў ён БелаПАН. — *Сцягі забіраць права не мелі, бо гэта асабістыя рэчы, таму ахова прапаноўвала здаць іх у камеры захоўвання... Калі б у гледачоў былі сцягі іншых дзяржаў, маглі б адбыцца розныя палітычныя акцыі. Калі б са сцягамі зайшлі ў залу, іх давялося б адбіраць там, а гэта яшчэ горш. Мы ніколі не дазваляем праходзіць з любой сімволікай, якая не дазволена рэгламентам правядзення мерапрыемства. У той жа час, калі б гулялі ў хакей каманды Украіны і Беларусі, то ніхто не забараніў бы праносіць сцягі гэтых дзяржаў... Мы і "Океан Эльзи" папярэдзілі, каб яны вялі сябе прыстойна. Гэтыя песні — напрыклад, "Уставай" і іншыя... Мы ўзгаднялі з імі, каб яны не спявалі пэўныя песні. Не таму, што супраць гэтых песень, мы не хочам нагнятання абстаноўкі ў зале, каб людзі не паставіліся да таго, што адбываецца, неадназначна і гэта не вылілася ў нейкія ненармальныя адносіны".*

Паводле слоў арганізатараў канцэрта, рашэнне аб забароне ўкраінскіх сцягаў на мерапрыемстве прымала ГУУС Мінгарвыканкама, але ўчора атрымаць каментарый у сталічнай міліцыі так і не ўдалося — тэлефон кіраўніка прэсслужбы не адказваў, а афіцыйнай заявы з гэтай нагоды не прагучала.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**




## ДАРЭЧЫ

Удзельнікі інцыдэнту на канцэрце падаюць скаргі на забарону праносу ўкраінскай сімволікі. Звароты накіроўваюцца ў Цэнтральны ГУУС Мінска, пракуратуру Цэнтральнага раёна сталіцы, у "Мінск-Арэну" і Пасольства Украіны ў Мінску.

*"Перад наведваннем канцэрта мы тэлефанавалі на "Мінск-Арэну", каб удакладніць, ці можна нам браць з сабой фотаапараты і ўкраінскія сцягі,* — гаворыцца ў звароце. — *Нам адказалі, што на білетах напісаны ўсе забароненыя для праносу рэчы, а дадатковай інфармацыі яны не маюць, бо ў мерапрыемстве будуць задзейнічаны не ахоўнікі "Мінск-Арэны", а супрацоўнікі Цэнтральнага РУУС Мінска... Сцяг Украіны з'яўляецца афіцыйным сімвалам суседняй сяброўскай нам дзяржавы, і яго выкарыстанне заканадаўствам Рэспублікі Беларусь не забаронена не толькі падчас масавых мерапрыемстваў, але і на публічных канцэртах. Такім чынам, супрацоўнікі міліцыі дзейнічалі незаконна".*

Наведвальнікі канцэрта просяць растлумачыць ім, на якіх падставах быў забаронены дзяржаўны сцяг Украіны на мерапрыемстве, а таксама правесці праверку па фактах і прыняць меры пракурорскага рэагавання.

З-ЗА КРАТАЎ

# Палітвязню Мікалаю Дзядку пагражае яшчэ год зняволення

Спадзяванні на вызваленне **Мікалая ДЗЯДКА** ў сакавіку 2015 года абрушыліся ў адзін дзень: 20 лістапада сваякам Мікалая пазваніў дзяжурны адвакат і паведаміў, што супраць яго распачата крымінальная справа па 411-м артыкуле. Справу ініцыявала турэмная адміністрацыя. Гэта азначае, што пасля сканчэння тэрміну зняволення яго могуць не выпусціць на волю.

27-гадовы Мікалай Дзядок знаходзіцца за кратамі больш за чатыры гады. Яго затрымалі 3 верасня 2010 года па падазрэнні ў "нападзе на амбасаду Расійскай Федэрацыі" ў ноч на 31 жніўня ў Мінску. Калі цягам трох сутак пераканаўчых доказаў датычнасці Мікалая да інцыдэнту не знайшлося, то яму падоўжылі тэрмін ізаляцыі па падазрэнні ў "нападзе на Дом прафсаюзаў". Калі ж і ў гэтай справе доказы не былі здабыты, Дзядка зрабілі падазроным у "нападзе на аддзяленне "Беларусбанка". Але і тут следчыя не мелі поспехаў, і тады з'явілася новая справа — удзел у несанкцыянаванай акцыі каля Генштаба. У выніку Мікалай Дзядок аказаўся абвінавачаным і асуджаным па артыкуле 339 Крымінальнага кодэкса — "Хуліганства".

Калі Мікалая арыштавалі, яму было 22 гады, і ён паспяхова вучыўся на 2-м курсе Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта на факультэце паліталогіі. Але аказаўся замешаным у так званую "справу анархістаў".

За час адбыцця пакарання Мікалай, як і многія іншыя палітвязні, атрымаў некалькі дзясяткаў спагнанняў. У выніку цяпер ён мае права на адну перадачу ў год і на адно кароткачасовае спатканне пад наглядам супрацоўнікаў калоніі. Яго бацька апошні раз бачыў сына 26 кастрычніка 2011 года. **Аляксандр ДЗЯДОК,** сам былы суддзя, кажа: *"Мы не можам яму нічым дапамагчы. Натуральна, усе гэтыя стрэсы, карцары не спрыяюць здароўю чалавека, які знаходзіцца ў такім месцы. Але мы нічога не можам..."*

Жонка Мікалая Дзядка **Валерыя ХОЦІНА распавяла "Народнай Волі"**, што ні яна, ні родныя Мікалая пакуль не могуць нават высветліць, дзе ён знаходзіцца.

*— Ён ужо можа быць не ў калоніі, а ў следчым ізалятары, бо гэта ж новая крымінальная справа, — кажа Валерыя. — Мы зрабілі запыт у Дэпартамент выканання пакаранняў, папрасілі, каб там далі раскладку наконт таго, колькі дакладна ў Мікалая спагнанняў. Я дакладна не ведаю... Ён разоў 10—12 адбываў пакаранне ў карцары. Але што азначае "злоснае непадпарадкаванне"? Ён што, збіў некага ці абразіў? Спагнанні выносяць за ўсялякую дробязь... Апошні раз ён быў пакараны за тое, што адмовіўся чысціць туалет. Дык што, за гэта трэба караць турмой?*

*Пакуль я атрымліваю ад яго старыя лісты, у іх — ні слова пра новую справу. Таму нічога не ведаю. Ды і са спатканнем цяпер невядома што. Планавалася яно на студзень, а цяпер не вядома нічога. Самае балючае, што Мікалай меў ужо нейкія планы. Тэрмін адбыцця пакарання заканчваўся ў сакавіку, а тут на табе... Мікалай жа там займаецца самаадукацыяй, вывучае новыя мовы. Але лепш бы ён займаўся гэтым на волі. Столькі часу змарнавана!".*

На сённяшні дзень матэрыялы крымінальнай справы на Мікалая Дзядка ў суд не перадаваліся, таму невядома, калі адбудзецца яе разгляд. Але выглядае на тое, што ў наступным годзе прозвішча Дзядка наўрад ці знікне са спіса беларускіх палітвязняў.

Нагадаем, што ў свой час па тых жа прычынах "затрымаўся" ў турме былы палітвязень Дзмітрый Дашкевіч. Неяк так дзіўна здараецца, што палітычна актыўныя хлопцы ў месцах зняволення робяцца "злоснымі парушальнікамі", зато сапраўдныя крымінальнікі там не затрымліваюцца.

**Любоў ЛУНЁВА.**

## ТЫМ ЧАСАМ

# Андрэй Бандарэнка сам папрасіўся ў ШІЗА

Асуджанага праваабаронцу Андрэя Бандарэнку змясцілі ў камеру штрафнога ізалятара, пасля чаго ён спыніў галадоўку.

Пра гэта паведаміў бацька асуджанага Валерый Бандарэнка, які атрымаў ліст ад сына. *"Такое рашэнне прынята начальнікам калоніі ў якасці меры бяспекі,* — кажа Валерый Бандарэнка. — *Паколькі было некалькі інцыдэнтаў, якія маглі перарасці ў канфлікт, Андрэй напісаў заяву, каб яго змясцілі ў камеру ШІЗА. Па распараджэнні начальніка калоніі там ён будзе знаходзіцца два месяцы. Цяпер для яго прымаюць перадачы".*

Нагадаем, што Бандарэнка не першы беларускі зняволены, на якога метадам хлусні і правакацый нацкоўваюць падкантрольных кіраўніцтву калоніі асуджаных.

НАДВОР'Е

# Амаль зіма

У аўторак 25 лістапада надвор'е будзе вызначаць перыферыя халоднага антыцыклону з цэнтрам над Ніжняй Волгай. Чакаецца пераменная воблачнасць. Пераважна без ападкаў, толькі раніцай і днём па захадзе снег, мокры снег. Ноччу і раніцай месцамі слабыя туман і галалёд. Вецер паўднёва-ўсходні ўмераны. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -2...- 8°С, па ўсходзе -9...-11°С, максімальная днём -4...+1°С. Атмасферны ціск будзе слаба падаць.

26 лістапада надвор'е будзе фарміраваць малаактыўны атмасферны фронт. У асобных раёнах пройдзе невялікі снег. На дарогах месцамі захаваецца галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы -2...-9°С, па ўсходзе -10...-12°С; днём 0...-7°С.

27 лістапада тэрыторыя Беларусі будзе знаходзіцца ў полі павышанага атмасфернага ціску. Пераважна без ападкаў. На асобных участках дарог галалёдзіца. Тэмпература паветра ноччу -4...-11°С, месцамі да -13°С; днём -1...-8°С.



## ДАРЭЧЫ

**У мінулыя выхадныя Пінск апынуўся пад ледзяным дажджом.**

**Такая прыродная з'ява выклікана вялікай розніцай тэмператур паветра на вышыні і ля зямлі. У выніку кроплі дажджу далятаюць да зямлі ў цвёрдых празрыстых шарыках лёду. Пры падзенні на паверхні і прадметы шарыкі разбіваюцца, вада з іх выцякае і замярзае зноў...**

**Гэта вельмі прыгожа. Але такая прыгажосць можа стаць сапраўдным бедствам.**

ЧУЛІ?

# Мінск прыме міні-алімпіяду

Мінск атрымаў права прыняць летні Еўрапейскі юнацкі алімпійскі фестываль (ЕЮАФ) 2019 года. Заяўка беларускай сталіцы была падтрымана на Генеральнай асамблеі Еўрапейскіх алімпійскіх камітэтаў (ЕАК), якая праходзіла ў Баку.

У склад заявачнага камітэта "Мінск-2019" у Баку ўваходзілі алімпійскія чэмпіёны **Юлія Несцярэнка** і **Дзмітрый Даўгалёнак,** генеральны сакратар НАК Беларусі **Георгій Катулін,** міністр спорту і турызму **Аляксандр Шамко**, памочнік прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму **Максім Рыжанкоў,** а таксама першы намеснік старшыні Мінгарвыканкама **Уладзімір Кухараў.**

Адбылася цырымонія падпісання трохбаковага кантракта на правядзенне ЕЮАФ-2019 паміж ЕАК, НАК Беларусі і Мінгарвыканкамам.

## Да ведама

Летні Еўрапейскі юнацкі алімпійскі фестываль праводзіцца ў няцотныя гады і з'яўляецца комплексным спартыўным мерапрыемствам, праграма якога ўключае спаборніцтвы па дзевяці відах спорту, сярод якіх баскетбол, веласпорт, валейбол, гандбол, дзюдо, лёгкая атлетыка, плаванне, спартыўная гімнастыка, тэніс. Як правіла, у турніры бяруць удзел юнакі і дзяўчаты ва ўзросце ад 14 да 18 гадоў. Пры гэтым краіна-арганізатар атрымлівае права ўдзелу ў спаборніцтвах па ўсіх відах спорту поўным складам без праходжання адбору на папярэднім этапе. Пры правядзенні ЕЮАФ, згодна з афіцыйным пратаколам, павінны быць выкананы ўсе працэдуры Міжнароднага алімпійскага камітэта (МАК): эстафета і запальванне алімпійскага агню, парад нацый і цырымонія адкрыцця, клятва спартсменаў і спартыўных суддзяў, падняцце алімпійскага сцяга.

ЗАКУЛИСЬЕ

# Кто оперировал Александра Лукашенко?

***Белорусскому президенту сделали операцию на коленном суставе. Эту новость белорусам сообщила в субботу пресс-секретарь А.Лукашенко Наталья Эйсмонт. Но информация состояла буквально из нескольких предложений. Подробности остались за кадром. Почему?***

*"Причиной операции стала спортивная травма, полученная во время одной из тренировок по хоккею,* — заявила пресс-секретарь главы государства Наталья Эйсмонт. — *Операция была плановой, но из-за плотного, насыщенного графика президента Беларуси провести ее ранее не представлялось возможным. В настоящее время президент Беларуси чувствует себя удовлетворительно. Он находится в своей загородной резиденции. Для реабилитации понадобится 3—4 дня. Свои обязанности президент выполняет в полном объеме".*

Операцию главе государства провели в Республиканском клиническом медицинском центре Управления делами президента Беларуси, известном в народе как лечкомиссия.

Кто оперировал главу государства? Почему за кадром остались имена врачей, которым Лукашенко доверил свое здоровье? Ведь это был прекрасный повод рассказать о достижениях белорусской травматологической службы.

На условиях анонимности врачи Республиканского клинического медцентра сказали, что такая завуалированность связана с тем, что, как и 14 лет назад, Александра Лукашенко хоть и оперировали в Беларуси, но выполняли операцию не белорусские врачи, оперировать белорусского правителя приезжал хирург из-за рубежа.

Возможно, кто-то и не помнит, но в 2000 году Александру Лукашенко уже делали операцию на коленном суставе. Тогда из этого события тоже не стали делать тайну и, как и сейчас, сообщили об операции по телевизору: впервые на телеэкране появилась тогдашний личный доктор президента Ирина Абельская, которая сообщила белорусскому народу, что операция прошла успешно и А.Лукашенко чувствует себя хорошо. Но она тогда не сказала главного: оперировал А.Лукашенко приглашенный из Франции хирург-ортопед, а не отечественные специалисты эндоскопической хирургии.

Операция на коленном суставе, которую перенес в субботу белорусский лидер, хоть и считается высокотехнологичной, относится к разряду малоинвазивных хирургических манипуляций, для пациента она не опасная, щадящая. Благодаря незначительной величине надрезов такое вмешательство почти не оставляет рубцов, уже к вечеру в день операции пациенту разрешают ходить, наступая на ногу, а период реабилитации составляет 3—4 дня. В Беларуси подобные эндоскопические операции выполняются давно и успешно, такой технологией владеют не только столичные хирурги. Современные программы по реабилитации после таких операций несложные, не требуют особых условий, поэтому нет ничего удивительного в том, что Александр Лукашенко восстанавливается после операции в своей загородной резиденции.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

# Родить здорового малыша

*Статистика свидетельствует: в Беларуси увеличилось число супружеских пар, имеющих проблемы с зачатием. Причем медики отмечают значительный рост мужского бесплодия. Если 30 лет назад на 70—80% случаев женского бесплодия приходилось 20—30% мужского, то теперь это соотношение составляет 60% на 40%.*

***Что такое мужское бесплодие? Как оно лечится? Когда мужчине надо срочно обратиться к урологу? Можно ли предупредить бесплодие? Зависит ли здоровье малыша от здоровья отца? Какой возраст родителей оптимальный для зачатия?***



*На эти и другие вопросы в ходе "прямой линии" ответит уролог медицинского центра "ЛОДЭ"* ***Валерий Михайлович КОНДРАТЕНКО****. Звоните сегодня, 25 ноября с 16.00 до 17.30 по телефону* ***328-68-41.*** *Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте nvonlineinfo@gmail.com с пометкой "Прямая линия".*

ОФИЦИАЛЬНО

# Столкновение

## *Директор СШ №10 города Светлогорска Людмила Драпезо рассказала, почему она приняла решение уволить из школы лучшего учителя района Елену Маслюкову.*

### Из истории вопроса

Как уже писала "Народная Воля", в начале этого учебного года в городе Светлогорске случилось ЧП. Из средней школы №10 была уволена учительница истории Елена Маслюкова. Директор Людмила Драпезо не продлила с ней трудовой контракт и уволила после 5 лет безупречной работы, несмотря на то, что Маслюкова в прошлом учебном году получила звание "Лучший учитель района". Причину увольнения Людмила Драпезо объяснять не стала, Елена Маслюкова могла только предполагать, чем было вызвано такое директорское решение, — не сошлись по политическим взглядам.

Когда эта история вышла за стены школы, а потом и за границы района, Людмила Драпезо хранила молчание, никаких комментариев не давала. Районное руководство образования заняло позицию "мы тут ни при чем": это внутренний конфликт, директор принимает учителей на работу, директор их и увольняет, нет тут никакой политики и запрета на профессию из-за убеждений. Не замечали вопиющего факта и в чиновничьих кабинетах Гомеля, Минска. Почему я пишу "вопиющего", потому что, на мой взгляд, есть очевидные вещи. Сегодня профессия учителя, давайте прямо скажем, немодная, непрестижная, малооплачиваемая. Прагматичный директор должен всячески держаться за хорошего учителя, ведь на его место может прийти абы какой специалист. А Людмила Драпезо с такой легкостью приняла решение о непродлении контракта с опытным педагогом, не вызвала Маслюкову, не попыталась с ней поговорить, найти компромисс. И чиновники от образования демонстрируют равнодушие. Неужели им все равно, что на улице оказался лучший учитель района? Неужели нашей школе не нужны профессионалы?

Я решила встретиться с Людмилой Драпезо и выслушать ее точку зрения. Не стала звонить (по телефону всегда можно сослаться на срочные дела, извиниться и положить трубку), а специально поехала в город Светлогорск.

### "Спешите делать добро!"

Нужный адрес на редакционной машине мы нашли быстро, первый случайный прохожий сразу же объяснил, как проехать к СШ №10. Эта школа известна в городе, в рейтинге средних учебных заведений Светлогорска стоит на втором месте после гимназии. В ней почти 900 учащихся, учебное заведение работает в две смены. В этом году по итогам централизованного тестирования СШ №10 города Светлогорска заняла 53-е место среди 100 лучших школ Беларуси. Это успех, потому что в этом рейтинге средних школ немного, 2/3 списка — это гимназии и лицеи. В приватных беседах учителя говорили мне, что Елена Маслюкова тоже приложила к этому руку, благодаря ее факультативам выпускники улучшили свои результаты на ЦТ по обществоведению.

...Над центральным входом в здание школы висит растяжка: "Спешите делать добро!". Сразу же в голове возникает мысль: как эти слова не соответствуют тому, что случилось недавно в этом учебном заведении. Думаю, увольнение лучшего учителя района не принесло добра ни учителям, ни ученикам, которые, к слову, вместе с родителями просили директора оставить Елену Маслюкову в школе. Пока ждала аудиенции у директора, узнала, что в знак солидарности с любимым учителем после 1-й четверти из школы ушел ученик 11-го, выпускного (!), класса...

Предварительно о встрече с Людмилой Яковлевной Драпезо я не договаривалась, не была уверена, что она откликнется на мою просьбу поговорить о причинах увольнения Елены Маслюковой. И, думаю, не ошиблась. Наш разговор, по ее словам, состоялся только потому, что я оказалась в кабинете директора (а не позвонила по телефону), проявила напористость. Встретила же она меня словами: "Зачем возвращаться к этой теме? Прошло два месяца. Кому это сейчас интересно?"

**— Думаю, узнать причину, по которой из школы уволили лучшего педагога района, интересно всем,** — настаивала я.

— Она не оправдала моих ожиданий... А лучшего учителя года делает команда. Это не только заслуга Елены Александровны. И это не новшество, всех учителей года делают команды. Идет кропотливая подготовка, назначаются ответственные из числа администрации, педагоги вместе скрупулезно составляют план для предоставления в отдел образования — это еще не урок, не сценическое воплощение, а просто сухой план. Конкурс на звание лучшего учителя — это коллективный труд, это работа команды... Когда смотришь на конкурсантов, сразу угадывается учебное учреждение.

**— Но вашу школу представляла именно Маслюкова, а не другой учитель. Она давала урок, выходила на сцену, ее оценивало жюри…**

— В нашей школе очень сильная команда педагогов. Но есть категория людей, которые на предложения администрации говорят: "Да, я согласен", а есть те, кого никуда отправить нельзя, они не соглашаются, хотя педагоги сильные. В начальной школе у нас работают учителя, к которым за два года до набора записывают детей, чтобы попасть к ним в класс.

Тех учителей, которых я хотела видеть на конкурсе, увы, отправить было нельзя. Не соглашаются.

**— А Маслюкова, выходит, согласилась…**

— Тоже нелегко.

**— Людмила Яковлевна, я слышала, что вы лично пригласили Елену Александровну работать в вашу школу.**

— Нет. Была вопиющая ситуация. 2 сентября на повышение ушел учитель истории. Представляете, начало нового учебного года, а у меня забирают лучшего учителя истории — Анжелику Михайловну Жарикову, приглашают на должность завуча в другую школу. Препятствовать я не имела права, хотя она была контрактница. Но я понимала, что это новый виток в ее жизни, даже не в карьере... И вот мне срочно нужен учитель истории. В команде нашей администрации есть мой заместитель, она называет себя подругой Елены Александровны, и она предложила пригласить Маслюкову. Сказала: "Есть опытный историк, нагрузки там, где она работает, нет, а у нас 20 часов. Давайте пригласим". И я согласилась. В результате навредила педагогу, совершенно того не желая. Это педагог не для наших детей.

**— Почему?**

— Потому что это человек с абсолютно выверенной политической позицией, платформой, взглядами. Как угодно это назовите. Патриотизм и национализм — это взаимоисключающие понятия. Одно из направлений воспитательной работы в государственном учреждении — это формирование гражданственности и патриотизма.

**— Что значит "национализм"? Любить страну, родину, а не власть — это национализм?**

— То и значит. Откройте словарь... События в соседнем государстве, наверное, окончательно убедили меня в том, что...

**— Елена Александровна в интервью нашей газете высказывала свое мнение относительно событий в Украине, роли России в этом конфликте. Это ее личное мнение. Ведь нашей Конституцией не запрещено иметь собственное мнение. Какое отношение это имеет к ее профессиональным качествам?**

— Ее мнение должно быть дома на кухне. А здесь она должна формировать ту позицию... Мы — государственное учреждение образования. И наша позиция очень толерантная, очень уважительная ко всем государствам и уж, конечно, к братьям-славянам, россиянам.

**— И к украинцам тоже. Это государственная политика.**

— Елене Александровне мудрости бы нашего президента, никаких бы вопросов не возникло.

Есть факты, что она свое мнение высказывала на факультативных занятиях. Я очень переживала, что зайдет еще дальше. Урок проходит за закрытой дверью. Я не могу стоять и подставлять ухо к замочной скважине. Я должна быть уверена, еще раз повторяю, в политической культуре педагога. Да, он может иметь свой взгляд на вещи, но никогда не позволит говорить об этом с детьми. Они еще глина. Они повторяют за учителем его слова...

**— Мне кажется, учитель должен учить детей думать, они не только должны повторять за ним его слова… Что ж такое позволяла говорить ученикам Елена Александровна, что вы приняли решение не продлевать с ней контракт? Вражду сеяла между народами?**

— Я не берусь сейчас в какой-то диалоговой форме определять, что такое "вражду сеять". И так наш разговор зашел слишком далеко... Я не планировала разговаривать с вами на эту тему. Сегодня этот разговор уже не имеет никакого значения...

Я думаю, что все переживали — общественность школьная, родители, педагоги, конечно же. И я очень переживала, и Елена Александровна.

**— А вы не могли договориться? Продлить контракт на год, устроить ей, так сказать, испытательный срок?**

— А она и не пыталась со мной договариваться.

**— В интервью нашей газете Елена Александровна сказала, что она получила уведомление о непродлении контракта, а о причинах такого решения вы ей даже не сообщили.**

— В чем смысл такого уведомления? У работника есть два месяца, чтобы задать вопросы и найти на них ответы. А если не найти, то юридически правильно решать вопрос. Она могла прийти ко мне на разговор, записаться на прием к начальнику районного отдела образования, заместителю председателя райисполкома, который курирует вопросы образования. Елена Александровна ничего этого не предпринимала, а 3 сентября — в день получения трудовой книжки, зашла ко мне, пыталась что-то мне сказать... Более того, 11 сентября я получила по почте письмо от нее с требованием дать разъяснение причины непродления контракта со ссылкой на пункт коллективного договора. Я изумилась, потому что де-юре с 3 сентября Елена Александровна уже не была работником школы.

Два месяца было у работника, чтобы обратиться ко мне за разъяснениями — либо в устной форме, либо в письменной (на что я должна была отреагировать). Но все началось после 3 сентября. А началось невероятное. Шум в прессе...

**— Тем не менее до сих пор вы четко не объяснили, почему уволили Маслюкову.**

— Вы себе представить не можете, что я ей пояснила. И она даже не посмела вам это сказать, как не посмею и я... Потому что когда она мне сказала: "Встретимся в суде", я ей ответила, что приведу нашего выпускника.

**— И что выпускник? Его оценка в аттестате не соответствовала уровню знаний? Он был плохо подготовлен по истории?**

— Нет, что вы! Он пояснит причину увольнения. А я не смею вам этого говорить.

**— Выходит, был конфликт учителя с учениками?**

— Не конфликт. Это совершенно недопустимая политическая платформа учителя государственного учреждения образования.

**— Я слышала, что в другую школу ушел один из выпускников, который был не согласен с вашим решением относительно увольнения Маслюкововй.**

— Он ушел после первой четверти. Причина ухода иная. Нашел школу, где не надо учить добросовестно все предметы, где высокую отметку в аттестате легче получить, чем у нас. Сегодня есть такая проблема, и все говорят: ученики выпускных классов предпочитают школу с далеко не самой высокой организацией образовательного процесса. Есть гонка за средним баллом аттестата. В маленькой школе его заработать проще.

**— А как коллектив воспринял увольнение Маслюковой? Учителя не просили вас повременить с таким категорическим решением?**

— Было общее собрание. На нем я говорила буквально то, что сейчас говорю вам. Призналась, что это первое увольнение за 12 лет моей работы в должности директора и я очень переживала...

Отношение к администрации формируется не за один день. 12 лет я руковожу этой школой. До меня здесь была очень сильный директор — Александра Михайловна Юшкевич. Она стояла у истоков школы, создавала ее, формировала репутацию этой школы. Когда оставила пост директора, из школы не ушла, преподавала химию и только в этом году приняла решение уйти на заслуженный отдых, ей 68 лет... Нынешний авторитет школы в городе, районе и даже в республике — это заслуга всей команды. Здесь случайных учителей нет.

**— Вы в этой школе всегда работали?**

— Нет, работала учителем в другой школе, сюда была назначена директором.

**— Вас кто-то заметил, вы понравились районным чиновникам от образования?**

— В системе образования, как и везде, формируется резерв руководящих кадров...

**— Людмила Яковлевна, скажите честно: увольнение Маслюковой — это ваше решение, или из районного отдела образования поступило такое предложение?**

— Любой руководитель, принимая такое решение, ставит в известность своего руководителя. Я сообщила о своем решении в районный отдел образования. Мне сказали, что это мое решение и моя ответственность. Никто на меня не давил.

**— Как вы думаете, после этого скандала Маслюкова сможет работать в школе? Ваши коллеги-директора возьмут ее на работу?**

— Не знаю. Я бы в нашу школу ее никогда не взяла... Наверное, должно быть какое-то раздвоение личности, когда человек имеет одни убеждения, а с детьми должен говорить о другом.

...Вы даже себе представить не можете, сколько меня сейчас как директора волнует проблем. Я так рада, что история с Маслюковой... что все это немножко успокоилось. Я очень огорчена сегодняшней нашей встречей, на мой взгляд, несколько запоздалой, каким-то новым витком. Мне кажется, ни к чему бередить все. Я буду вам очень признательна, если вы позволите мне заняться другими делами...

***

Все время, которое я провела в школе, Людмила Яковлевна была учтива со мной. После разговора предложила кофе, пригласила в кабинет своих заместителей. Но им меня не представила, не объяснила, зачем я здесь. Пришлось самой представиться и пояснить, что привело меня в школу. Но увольнение Маслюковой администраторы школы развернуто обсуждать не стали. Лишь заметили, что да, факт неприятный, а журналисты раздули из него скандал. Не совсем клеился у нас разговор и на "вольные" темы. Например, о зарплатах учителей, о нагрузках, которые им не соответствуют, о том, как вернуть в белорусские города белорусскоязычные школы. В Светлогорске 12 школ, но нет ни одной, где образовательный процесс велся бы на белорусском языке. Хотя в свое время здесь работал филиал Национального гуманитарного лицея, и дефицита в учениках не было. Меня не покидало ощущение, что я в кабинете директора лишняя, что все присутствующие выдохнут с облегчением, когда я распрощаюсь и уйду. Живо представилось, что такой лишней для администрации была и Елена Маслюкова.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

*Минск—Светлогорск.*




**В прошлом году светлогорская СШ №10 праздновала победу не только на районном конкурсе "Лучший учитель года". Она стала первой на областном конкурсе учреждений общего и среднего образования за лучшую организацию образовательного процесса. Почетную грамоту вручили директору Людмиле Драпезо.**

ДАТА

## *Пададзена заяўка на дазвол адзначыць гадавіну Слуцкага збройнага чыну*

*Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч і кіраўнік слуцкай арганізацыі Партыі БНФ Віталь Амяльковіч падалі ў Мінскі абласны выканаўчы камітэт заяўку на правядзенне мерапрыемстваў з нагоды 94-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну.*

Плануецца, што 29 лістапада ўрачыстыя сходы ў памяць слуцкіх паўстанцаў адбудуцца ў мястэчках, звязаных з падзеямі 1920 года — у Грозаве, Семежаве і Вызне (Чырвоная Слабада). Таксама пададзена заяўка ў Слуцкі гарвыканкам на правядзенне мітынгу і ў самім Слуцку.

Слуцкі збройны чын — спроба ўзброенай абароны незалежнасці Беларусі ў раёне Слуцка ў лістападзе і снежні 1920 года. Прыкладна месяц беларускія вайсковыя аддзелы, сфарміраваныя пераважна з мясцовых сялян, супраціўляліся наступленню савецкіх войскаў. 14 лістапада 1920 года распачалася збройная абарона незалежнасці Беларусі на Случчыне. У гэты дзень там распачаўся З'езд, які абраў Раду Случчыны. Задачамі Рады стала арганізацыя грамадзянскага кіравання, а таксама абароны краю. З'езд прыняў рэзалюцыю, якая абвяшчала ўладу Беларускай Народнай Рэспубліцы ў Слуцку і наваколлі, і выказаў пратэст супраць бальшавіцкай акупацыі. Збройныя дзеянні адбываліся з 27 лістапада па 31 снежня 1920 года. З 1980-х гадоў угодкі Слуцкага паўстання як знакавая падзея ў гісторыі барацьбы за незалежнасць Беларусі адзначаюцца шэрагам грамадскіх арганізацый як Дзень герояў. Афіцыйная ўлада дагэтуль ігнаруе памяць пра гэты антыбальшавіцкі збройны чын.

МАЙЦЕ НА ЎВАЗЕ

## *Арэнднае жыллё прыватызавацца не будзе*

Аб гэтым заявіў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў час семінара са студэнтамі, выкладчыкамі і выпускнікамі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.

Маладыя вучоныя пацікавіліся, ці могуць тыя з іх, хто найбольш вызначыўся, выкупляць арэнднае жыллё.

Аказалася — не.

У сувязі з гэтым Аляксандр Лукашэнка растлумачыў, што ў свой час ён праініцыіраваў стварэнне арэнднага жылля і сёння аб гэтым не шкадуе. Акрамя таго, што арэнднае жыллё дапамагае часова вырашыць жыллёвую праблему многім катэгорыям грамадзян, яно таксама дапамагае ў барацьбе з так званымі летунамі, якія пастаянна мяняюць работу. Не зусім нармальнай была сітуацыя, калі чалавек, атрымаўшы кватэру ад прадпрыемства, тут жа па нейкіх прычынах або без прычын кідаў гэту работу, пасля другую, трэцюю, сказаў Аляксандр Лукашэнка.

*"Гэта значыць арэнднае жыллё прадастаўляецца часова. А сёння вы ставіце пытанне — прыватызаваць гэту арэндную кватэру. Не, прыватызаваць нельга",* — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

СІТУАЦЫЯ

## *Забіваць было лягчэй*

Пагалоўе свіней у Беларусі пасля свіной чумы аднаўляецца кепска. Пра гэта заявіў старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю **Леанід Анфімаў.**

Ён нагадаў, што кіраўнік краіны загадаў аднавіць пагалоўе свіней да таго ўзроўню, які быў да ўспышкі свіной чумы ў Беларусі. Аднак праверкі, праведзеныя Дзяржкантролем у розных рэгіёнах, паказваюць, што пакуль гэта нерэальна. Некаторыя гаспадаркі, напрыклад на Гродзеншчыне, замест аднаўлення пагалоўя зрабілі акцэнт на прырост вагі свіней.

*„Пакуль мы назіраем з боку органаў мясцовай улады ды аграрыяў хаатычны рух у гэтым кірунку",* — сказаў Анфімаў. Адным словам, пазбавіцца ад свіней было лягчэй, чым выгадаваць іх па новай.

КОНКУРС

# Артысты, вас ацэньваюць!

*Учора спектаклем Купалаўскага тэатра "Пан Тадэвуш" у краіне пачаўся вялікі тэатральны агляд — III Рэспубліканскі конкурс тэатральнага мастацтва "Нацыянальная тэатральная прэмія". Конкурс працягнецца тыдзень, беларускія калектывы — 18 тэатраў з усёй краіны, у тым ліку 4 недзяржаўныя — пакажуць 21 спектакль.*



У гэтым годзе ў параўнанні з мінулым у конкурс унесены значныя змены: стала больш намінацый — не 11, як раней, а 21. Нарэшце арганізатары прыслухаліся да крытыкі, і зараз асобна будуць ацэньвацца акцёры драматычных, музычных і лялечных тэатраў.

Таксама і журы, якое было некалі адзіным і груваскім (звыш 100 чалавек), цяпер нашмат больш рацыянальна дзеліцца на 3 калегіі: для драмы, для музычных тэатраў (уключаючы оперу і балет) і для лялечных спектакляў. Старшынёй журы драмтэатраў стаў доктар мастацтвазнаўства, прафесар Рычард Смольскі. Лялечныя спектаклі будзе ацэньваць журы пад кіраўніцтвам галоўнага рэдактара часопіса "Мастацтва" Людмілы Грамыка. Рэктар Акадэміі музыкі прафесар Кацярына Дулава ўзначаліла журы музычных тэатраў.

Спецыяльная ўзнагарода чакае лепшага тэатральнага спонсара — намінацыі "За ўклад у культуру" і "Мецэнат тэатра". Як сказаў Павел Палякоў, гендырэктар Купалаўскага тэатра, на базе якога ў гэтым годзе праходзіць агляд, трэба ўмець гаварыць бізнесу: "Дзякуй!".

Для "Нацыянальнай тэатральнай прэміі" распрацаваны новы прыз, так як былую статуэтку "Купалінка" таксама падверглі крытыцы. Далі заданне скульптарам прыдумаць новую, абвясцілі конкурс. Ды дзе там! Пакуль не прыцягнулі да працы творчы тандэм Уладзімір Цэслер — Іван Арцімовіч з канкрэтным заданнем, да таго часу Міністэрства культуры не магло атрымаць жаданы вынік. Затое зараз статуэтка — бусел на антычнай калоне з крыламі з тэатральнай заслоны — гатова да ўручэння. Прызы адліты, маленькая чарада буслоў прызямлілася прама ў кабінеце дырэктара Палякова і чакае адмашкі для палёту да новых гаспадароў.

Цырымонія закрыцця адбудзецца ў Купалаўскім тэатры 30 лістапада. Але трапіць на яе ўсім жадаючым, натуральна, будзе цяжка: у зале толькі 350 месцаў, а трэба пасадзіць і членаў журы, і аргкамітэт. Таму запіс цырымоніі зробіць Белтэлерадыёкампанія, а потым пакажа яе на адным са сваіх каналаў.

**Кірыл БУБНОЎ.**

ФОТАФАКТ

## *Гэта здзек ці не здзек?*

**Вольга Грунова,** маці гамяльчаніна Аляксандра Грунова, расстралянага 22 кастрычніка 2014 года за забойства сваёй знаёмай Наталлі Емяльянчыкавай, атрымала страшную пасылку.

Па пошце маці даслалі... турэмную робу сына. У дадзеным выпадку менавіта пасля атрымання пасылкі маці зразумела, што смяротны прысуд прыведзены ў выкананне.




На турэмнай робе смяротніка напісаны белай фарбай літары "ИМН" — выключная мера пакарання ("исключительная мера наказания").

Як высветлілася, у Беларусі гэта практыка — сям'я атрымлівае робы пасля выканання прысуду. Прыходзіць турэмная роба поштай у пасылках "Да запатрабавання". *"Пры гэтым запісы, дзённікі і некаторыя іншыя асабістыя рэчы сваякам не вяртаюць",* — сцвярджае **Андрэй Палуда,** каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі". — *Пад катэгорыю "асабістых рэчаў" роба смяротнікаў не падпадае, гэта рэч, якую выдае дзяржава".*

Праваабаронцы разглядаюць пасылкі з турэмнай робай як бесчалавечнае абыходжанне з сям'ёй расстралянага. Бесчалавечным стаўленнем яны таксама лічаць тое, што целы расстраляных сваякам не выдаюцца, пра месца пахавання не паведамляецца.

А як вы думаеце, гэта здзек ці не здзек?

ЖАХ!

## *Жудаснае ДТЗ адбылося ў Лідзе*

*Грузавік насмерць збіў 9-гадовую дзяўчынку, пасля чаго вадзіцель паклаў цела дзіцяці ў фургон і з'ехаў.*

Пра здарэнне паведаміла прэс-служба УДАІ УУС Гродзенскага аблвыканкама. Дзевяцігадовая гімназістка вярталася з заняткаў. Да дома заставалася некалькі метраў, калі на пешаходным пераходзе яе збіў грузавы "Мерседэс". *"Кіроўца спыніўся не адразу і працягнуў цела дзяўчынкі каля ста метраў, пакідаючы адпаведны след на праезнай частцы. Потым павярнуў на тэрыторыю крамы (куды вёз прадукты харчавання для разгрузкі), дастаў цела і зачыніў яго ў фургоне",* — паведамляе УДАІ.

Аб жахлівай трагедыі нараду Дэпартамента аховы расказаў выпадковы сведка здарэння. Калі міліцыянеры адчынілі "Мерседэс", то сапраўды ўнутры фургона знайшлі цела загінуўшай дзяўчынкі.

*"Матывы такога неадэкватнага ўчынку кіроўцы, які не паддаецца здароваму сэнсу, высвятляюцца",* — удакладнілі ва УДАІ.

Ужо вядома, што кіроўца жыве ў Мінску, ён 1971 нараджэння.

ТРАГЕДЫЯ

## *Страшны канвеер*

*У Брэсце ў бальніцы памёр пяцімесячны хлопчык, якога жорстка збіла п'яная маці. Трагедыя адбылася ў мінулыя выхадныя.*

Сына, усяго ў сіняках, убачыў бацька, які каля пяці гадзін раніцы 22 лістапада вярнуўся дадому. 20-гадовая маці дзіцяці растлумачыць сітуацыю не змагла.

Патэлефанаваўшы ў "хуткую", бацька паведаміў, што ў хлопчыка сып на целе. У цяжкім стане са шматлікімі гематомамі, ранамі твару і пераломам скроневай косткі пяцімесячнае дзіця адвезлі ў дзіцячую бальніцу і шпіталізавалі ў рэанімацыйнае аддзяленне. Урачы змагаліся за жыццё хлопчыка, але выратаваць яго не змаглі.

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, міліцыі маці-забойца паведаміла, што была п'яная, таму не ведала, што творыць. У РАУС адміністрацыі Ленінскага раёна Брэста жанчыне стала дрэнна. Да яе выклікалі "хуткую", якая адвезла яе ў бальніцу з... пагрозай выкідыша на ранняй стадыі цяжарнасці.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
25 ЛІСТАПАДА 2014 г.

АБ ГЭТЫМ — УПЕРШЫНЮ!

*Мікалай ТОЎСЦІК*

# Глыбокая плынь,

## для якой не з'яўляецца перашкодамі ні «дыктатарскі рэжым», ні «крывавая гэбня»



### Беларуская загадка

— Якія, ты кажаш, у Беларусі зарплаты? — вырачыў вочы мой сябрук-масквіч. — А ты нічога не блытаеш? З такімі заробкамі толькі на ржавых "Жыгулях" ездзіць, а ў вас вунь вуліцы забіты дарагімі іншамаркамі...

Тым летнім адвячоркам мы абышлі ўсё наваколле Нямігі і Верхні горад, але так і не патрапілі ні ў адзін з рэстаранаў, бо кожны з іх, нягледзячы на куслівыя кошты, быў да адказу запоўнены весела-шумлівымі кампаніямі моладзі. Тая вандроўка канчаткова пераканала майго сябрука ў заможнасці Мінска і многіх мінчан. І не ён адзін так лічыць.

Пэўна, не толькі гасцям сталіцы, але і нам, тутэйшым жыхарам, урэшце варта прызнаць, што беларуская загадка сапраўды існуе. Не які-небудзь апазіцыйны сайт, а сам зашпілены на ўсе афіцыёзныя гузікі Белстат сцвярджае, што сярэдняя намінальная зарплата ў краіне складае цяпер сціплыя 599 долараў. Праўда, у мінчан яна на 174 долары большая. Але ж і гэта не той заробак, які дазваляе набываць кватэры па 1,5—2 тысячы долараў за квадратны метр ці хаця б купляць білеты на канцэрты вандроўных славутасцяў за паўтара мільёна рублёў, што даволі-такі масава адбываецца ў Мінску ды і ў іншых буйных беларускіх гарадах. А вас ніколі не заспявала на мяжы незлічоная гурма моладзі, што на нанятых "бусах" і ўласных аўто імчала ў Вільнюс ці ў Варшаву на якую-небудзь знакамітую рок-імпрэзу? Я неяк меў "радасць" патрапіцца на яе шляху — і захраснуў у чарзе гадзін гэтак на восем.

Карацей кажучы, даводзіцца дзесьці не верыць сваім вачам: або чытаючы пра ўсцяж панылае і бядотнае існаванне ледзь не ўсіх суайчыннікаў, на аповедах пра якое спецыялізуецца ў нашым краі шэраг выданняў і сайтаў, або на кожным кроку сутыкаючыся з праявамі зусім не гаротнага жыцця вельмі многіх жыхароў свайго горада, а часта і дома і нават пад'езда.

Нешта ўсё ж адбываецца ў глыбінях беларускай рэчаіснасці, якія і афіцыйныя, і апазіцыйныя сродкі масавай інфармацыі ўпарта лічаць нерухомымі. Толькі і розніцы, што першыя каторы ўжо год чаўпуць пра "стабільнасць", а другія — пра "здранцвеласць". Насамрэч у прадоннях нашага грамадства відавочна выспявае і ўсё выразней выяўляецца новая, яшчэ кепска асэнсаваная тэарэтыкамі і аналітыкамі, але ўсё больш уплывовая сіла, якая заўважна мяняе ландшафт беларускага жыцця.

Да яе варта прыглядзецца бліжэй.

### Мінск — горад «бо-бо»

У цяні старых, створаных 50—60 год таму, а то і даўней, монстраў беларускай эканомікі кшталту МАЗа, МТЗ ці магілёўскага "Строммаша" неяк неўпрыкмет нарадзіліся і за апошнія прыкладна паўтара дзесяцігоддзі набраліся моцы новыя сучасныя прадпрыемствы. Дагэтуль да іх не дужа прыглядаюцца ні ўлада, ні апазіцыя. Бо ўлада па вушы загразла ў здабычы ўсімі праўдамі і няпраўдамі таннейшых энергарэсурсаў, на якія ў сапселых монстраў заўжды павышаны апетыт, а таксама ў прапіхванні іхняй састарэлай прадукцыі на знешні, пераважна расійскі, рынак. А апазіцыя цікуе за тым, як паступова развальваецца змайстраваны яшчэ за савецкім часам і ўжо ладна струхлелы гаспадарчы будан пад назвай "беларускі эканамічны цуд".

Між тым на дзелавым небасхіле з'явіліся ўжо новыя, даволі яркія зоркі, прычым у самых розных сферах. Што агульнага, да прыкладу, у холдынга "Алютех" і навучальнага цэнтра "Адукацыйныя тэхналогіі"? Ды тое, што, маючы падлеткавы ўзрост, яны ўжо ўвайшлі ў лік міжнародных лідараў у сваіх галінах. "Алютех" — як вытворца алюмініевых профіляў і ралетных сістэм, "Адукацыйныя тэхналогіі" — як стваральнік адной з найбуйнейшых ва Усходняй Еўропе нясеткавай школы замежных моў, вядомай пад брэндам Streamline. Сучасныя прадпрыемствы высокага ўзроўню эфектыўнасці ёсць у гандлі, будаўніцтве, на аўтатранспарце, у сферах паслуг, рэкламы, харчовай прамысловасці... Іх стваральнікам, зазвычай людзям маладым і добра адукаваным, не перашкодзілі рэалізаваць свае амбітныя дзелавыя планы ні "дыктатарскі рэжым", ні "крывавая гэбня", ні якія іншыя загародкі на шляху да поспеху, што дагэтуль дзяжурна ўзгадваюцца на ўжо рэдкіх і даўно нешматлюдных мітынгах апазіцыянераў.

Але асабліва ўражваюць дасягненні ў галіне інфармацыйных тэхналогій. Паводле звестак не абы-кага, а Сусветнай гандлёвай арганізацыі, па экспарце камп'ютарных паслуг у разліку на душу насельніцтва Беларусь абагнала летась такіх знаных лідараў у ІТ-сферы, як ЗША і Індыя. Адметна, што айчынныя праграмісты і вэб-дызайнеры здатныя выконваць ужо не толькі заказы канкрэтных фірмаў, але і ствараць усясветна вядомыя брэндавыя прадукты.

Каля 400 мільёнаў чалавек на нашым "шарыку" (а мо ўжо і болей, бо ўсачыць за гэтым цяжка) карыстаюцца праграмай Viber, якая дазваляе з дапамогай мабільных сродкаў сувязі весці гутаркі і абменьвацца паведамленнямі, выкарыстоўваючы Wi-Fi і 3G-інтэрнэт. Гэтая праграма нагадвае "Скайп", але прызначана для смартфонаў і больш зручная ў карыстанні. Каб пачуць і ўбачыць свайго суразмоўцу, усяго толькі і трэба, што набраць нумар ягонага мабільніка. Сервер стварылі чатыры гады таму наш зямляк Ігар Магазінік і ягоны ізраільскі сябар Тальман Марка. Кампанія Viber Media зарэгістравана не толькі ў афшоры Ліхтэнштэйна, але ўваходзіць яшчэ і ў склад мінскага Парка высокіх тэхналогій (ПВТ).

Адным з буйнейшых у свеце выдаўцоў і распрацоўшчыкаў камп'ютарных гульняў стала кампанія Wargaming. У яе on-line гульню World of Tanks сёння гуляюць каля 100 мільёнаў зарэгістраваных ігракоў з розных кантынентаў, што дазволіла кампаніі трывала ўсталявацца ў Кнізе рэкордаў Гінеса. У Wargaming цяпер 16 офісаў па ўсім свеце, дзе працуюць каля 3 тысяч чалавек, але асноўная вытворчасць знаходзіцца ў Мінску.

Створаны "з нуля" ўсяго 9 год таму сталічны Парк высокіх тэхналогій летась зрабіў унёсак у беларускі валавы ўнутраны прадукт большы, чым МАЗ, БелАЗ і МТЗ разам узятыя. Мінулагодняя выручка ў яго быццам бы не дужа і вялікая — усяго 525 мільёнаў долараў. Але праграмісту ці таму ж вэб-дызайнеру для працы патрэбны толькі камп'ютар, памяшканне ды галава. Таму выдаткі тут непараўнальныя з трактарным і аўтазаводам. Пасля ўсіх выплат у кампаній ПВТ засталося 436 мільёнаў долараў. Калі б такую прыбытковасць мела хаця б трэць нашай эканомікі, дык Беларусь, пэўна, не збірала б грошы па свеце, як крумкач косці, а сама іх пазычала б. Непараўнальна эфектыўней вырашаюцца ў ІТ-сферы і інвестыцыйныя пытанні. Ужо некалькі год запар наша дзяржава марна шукае пакупнікоў на шэраг прамысловых прадпрыемстваў. А на Viber інвестар знайшоўся вельмі хутка. Нядаўна японская карпарацыя Rakuten набыла гэты сервіс за 900 мільёнаў долараў.

Як вядома, кампаніі, што ўваходзяць у ПВТ, маюць вялікія падатковыя льготы. І гэта часцяком выклікае непрыхаваную зайздрасць у кіраўнікоў прадпрыемстваў, якія ўзніклі яшчэ ў часы Брэжнева, Хрушчова, а то і Сталіна. Але, калі разабрацца, дык у стасунках з ІТ-сектарам выбар у дзяржавы небагаты: або ствараць высокатэхналагічнай галіне спрыяльныя ўмовы для існавання і развіцця, або ўвогуле не мець яе ў нацыянальнай эканоміцы. Бо, калі ўмовы неспрыяльныя, распрацоўшчыкам інфармацыйнага прадукту нават эмігрыраваць не трэба. Раніцай ногі з ложка звесіў — ужо на працы. Заказы з усяго свету — па інтэрнэце, зносіны з калегамі — таксама, разлік за выкананую працу — і той цалкам магчымы з дапамогай усясветнай павуціны. Так што сваю прагу да дырэктыўнага кіравання айчыннае чынавенства мусіць рэалізоўваць у іншых, больш традыцыйных, галінах эканомікі, прадпрыемствам якіх няма куды падзецца з "падводнай лодкі". У справы ж кампаній ПВТ яно надта не лезе, а той яшчэ больш шматлікай інтэрнэт-грамадзе, якая ў Парк не ўваходзіць, імкнецца калі не дапамагаць, дык хаця б не перашкаджаць. Што вельмі дальнабачна з боку ўлады. Бо тыя грошы, якія з такой эфектыўнасцю зарабляе ІТ-сфера, цыркулююць у Беларусі, папаўняючы яе бюджэт і даючы працу і заробак розным гаспадарчым і сацыяльным галінам.

А калі ў краіне ёсць паспяховыя і багатыя кампаніі, дык ці трэба здзіўляцца, што ёсць і людзі з грашыма! Паводле экспертных ацэнак, у Беларусі жывуць прыкладна 20 тысяч чалавек, асабісты капітал якіх перавышае мільён долараў. За апошнія два гады іх колькасць вырасла ў паўтара-два разы, што, дарэчы, прыкладна супадае з тэмпамі росту ІТ-сектара. Айчынныя Гейтсы і Джобсы займаюцца бізнесам пераважна ў Мінску, складаючы каля 1 працэнта ягонага насельніцтва, што не так і мала.

Але на дыхтоўных "тачках" ездзяць і кватэры купляюць не толькі і нават не столькі яны. На ніве сучасных тэхналогій паспяхова шчыруюць многія маладыя людзі — хто працуючы ў фірмах з высокімі зарплатамі, а хто стварыўшы "фірму" з самога сябе — балазе ўсясветная інтэрнэт-сетка дазваляе някепска пракарміцца і кваліфікаваным індывідуалам. Да мільённых прыбыткаў тут, вядома, далёка, але месячны даход у 1,5—2, а то і 3—5 тысяч долараў у гэтым маладзёжным асяродку — справа звычайная. Колькасць такіх хлопцаў і дзяўчат, асабліва ў Мінску, заўважна вырасла зноў-такі за апошнія два-тры гады. Прычым настолькі, што з'явіўся і таксама даволі хутка набірае абароты сектар паслуг для гэтага кантынгенту спажыўцоў. У ім ужо ёсць усё: ад начных клубаў, рэстаранаў і буцікоў — да гастроляў сусветных рок-славутасцяў і эксклюзіўных вандровак па Беларусі са слыннымі знаўцамі нашага краю.

На некаторых сайтах загаварылі пра Мінск як горад хіпстараў. Але ж прадстаўнікоў гэтай маладзёжнай субкультуры ва ўсім свеце дружна ганьбяць за няздольнасць ствараць, прыдумляць і вынаходзіць. А многім з нашых апранутых "пад хіпстараў" хлопцам і дзяўчатам у крэатыўнасці адмовіць цяжка. Калі ўжо карыстацца тэрмінам заходняй сацыялогіі, дык яны хутчэй "бо-бо". Такая крыху іранічная назва ўтварылася ад першых складаў англійскіх слоў bohemia + bourgeoisie ("багема плюс буржуазія"). Аднак гумарыстычнае найменне не перашкаджае заходнім грамадазнаўцам лічыць гэтую сацыяльную групу ў цывілізаваных краінах заканадаўцам усіх мод у соцыуме. І нават пануючым класам.

### Сціплая прывабнасць «багема-буржуазіі»

Пра кожнае наша "бо" варта сказаць асобна. З "багемай" гэты разнамасны па сваіх занятках і пераважна малады люд лучыць не тое, што ён спрэс малюе карціны ці піша вершы, хаця, вядома ж, свае мастакі і паэты ёсць і тут. Багеме ён роднасны з-за выразнага творчага стрыжня, вакол якога кожны член гэтай супольнасці будуе сваю справу — дарэчы, не абавязкова непасрэдна ў ІТ-сферы. Пры сустрэчах з крэатыўнымі маладымі людзьмі, у тым ліку і з тымі, якія дасягнулі немалых вышынь у прадпрымальніцтве, мяне заўжды ўражвае, што многія з іх цураюцца залічваць сябе ў чыстыя бізнесоўцы, якім усё роўна, дзе рабіць грошы — у вытворчасці туалетнай паперы ці ў арганізацыі арт-галерэй. Нярэдка штуршком для дзелавой актыўнасці станавіліся матэрыі зусім не халодна-прагматычныя, а даўнішняе палкае жаданне ці юнацкая мара. Іх рэалізацыя часцяком і абумоўлівала выбар прафесіі, прымушала да яе ставіцца творча, напаўняла жыццё сэнсам. А потым раптам высвятлялася, што заняткі-захапленне прыносіць яшчэ і грошы. Здаралася, што і вялікія. Адсюль і другое "бо" ў назве — "буржуазія".

Так, зрэшты, узнік Wargaming. Васямнаццаць год таму купка мінскіх студэнтаў, якая захаплялася кіберспортам, вырашыла стварыць свае камп'ютарныя гульні. "Лёгкае рубілава", як казаў іхні тагачасны верхавод Віктар Кіслы. Цяпер тое віртуальнае "рубілава" заваявала кіберсусвет, па ўжыванні найсучаснейшых тэхналогій яно даўно ўжо не лёгкае, а Віктар Кіслы ўваходзіць не толькі ў нацыянальную, але і ў міжнародную бізнес-эліту.

Вядома, далёка не ўсе, хто належыць да "бо-бо", дасягаюць такіх вышынь. Але, безумоўна, усіх прадстаўнікоў крэатыўнай супольнасці лучаць дзве агульныя вызначальныя рысы. Па-першае, абраная прафесія для кожнага з іх — гэта яшчэ і захапленне, а па-другое, даход яны атрымліваюць ад дзейнасці на ніве прагрэсіўных ідэй і тэхналогій. Гэта не проста карпаратыўныя адметнасці. Гэта новы лад працы, побыту, мыслення, асабістых і грамадскіх паводзін тысяч нашых суайчыннікаў. Гэта, калі хочаце, новая цывілізацыя, якая ўжо нарадзілася і паўстае ў нядаўна яшчэ такой па-сялянску патрыярхальнай Беларусі.

Цяперашняя "багема" нават знешне не падобная на тую, ранейшую. "Няголены, п'яны і без капейчыны ў кішэні..." Помніцца, такі джэнтльменскі набор павінен быў мець сапраўдны творца амаль паўстагоддзя таму, у гады майго студэнцкага юнацтва. І, мушу прызнаць, многія з тагачаснай багемы паспяхова адпавядалі гэтаму ідэалу. Цяперашнія распрацоўшчыкі і карыстальнікі тэхналогій інфармацыйнага веку, стваральнікі рэкламных ролікаў і вэб-сайтаў, медыйшчыкі і дызайнеры рознага кшталту ніякае самаразбурэнне ў сваё жыццё імкнуцца не дапускаць. Не тое каб увогуле праносілі чарку міма рота, але ж яна не з забойчай "барматухай", а з добрым натуральным вінам ці іншым нятанным і высакародным напоем, ад спажывання якога яшчэ ніхто не патрапіў у алкаголікі. Спорт, вандроўкі, стасункі з прыродай і мастацтвам — такі свет захапленняў нашай крэатыўнай моладзі. Я маю магчымасць назіраць яе амаль штодзённа, бо тыя члены "бо-бо"-супольнасці ёсць і сярод маёй радні, і сярод дзяцей маіх сяброў і знаёмых. Гэта ці не першае беларускае пакаленне, якое ўрэшце жыве, а не за нешта змагаецца. Тым больш што іх заробкі дазваляюць мець і асобную кватэру, калі не сваю, дык арандаваную, і "паркетнік", калі не зусім новы, дык яшчэ здатны давезці і да Браслаўскіх азёр, і да цёплага паўднёвага мора. Калі хтосьці з "бо-бо" рыбак — дык гумовая лодка, намёт і спінінгі з воблерамі і блешнямі ў яго будуць найлепшай якасці. Калі веласіпедыст — дык ягоны ровар вытрымае нават маршрут Ганібала ў Альпах...

Буржуа, як ёсць буржуа... Не ў сэнсе рабавання гаротных пралетарыяў, а ў імкненні і ўмельстве жыць напоўніцу, са смакам. Напоўніцу, са смакам даводзіцца і працаваць. Каб праявіцца на інфармацыйным рынку, які не ведае межаў, абавязкова трэба стварыць уласную індывідуальнасць — што вялікай кампаніі, што аматару шчыравання саматугам. Дзяржаве ад гэтага вялікая карысць. І не толькі сёння. Сур'ёзныя аналітыкі і некаторыя прадстаўнікі ўлады, асабліва з ліку маладзейшых і пасучаснаму адукаваных, даўно прыйшлі да высновы, што для небагатай на прыродныя рэсурсы Беларусі ўвогуле існуе адзіны шлях да эканамічнай заможнасці: прадаваць на сусветным рынку канкурэнтаздольныя высокатэхналагічныя тавары і паслугі. З крэатыўным класам, які цяпер усё гучней заяўляе пра сябе, якраз і прыходзіць у жыццё нашай краіны эканоміка постіндустрыяльнага грамадства, якую яшчэ называюць эканомікай ведаў.

Гэта тым больш дарэчы, што ў Беларусі ўжо распачаўся хваравіты працэс дэіндустрыялізацыі. Пра гэта гавораць ужо не толькі лічбы статыстыкі. Дапякло нават высокапастаўленых чыноўнікаў. Успомнім хаця б сёлетні заклік намесніка прэм'ер-міністра Пятра Пракаповіча, скіраваны да Аляксандра Лукашэнкі, "быць рэалістамі" з нагоды безнадзейнага адставання прадпрыемстваў айчыннага машынабудавання ад сусветных лідараў ці крык душы амбасадара ў Францыі Паўла Латушкі ў тэлеэфіры пра нашу тэхніку, што ламаецца нават на прэзентацыях за мяжой.

### Вольная Беларусь на працоўным месцы

Але рэалізацыя магчымасці для Беларусі карміцца з розуму, кваліфікацыі і крэатыўнасці сваіх грамадзян ды яшчэ, бадай, з еўразійскага скрыжавання, якое акурат прыпадае на нашы абшары, непазбежна пацягне за сабой і значныя сацыяльна-палітычныя перамены ў дзяржаве. Праўда, кіраўнікі буйных ІТ-кампаній дружна абвяшчаюць прынцыповую апалітычнасць сваіх карпарацый. Ды і сапраўды: у чыёй нацыянальнай палітыцы мог бы ўдзельнічаць той жа Wargaming, нават калі б ягонае кіраўніцтва моцна гэтага захацела? У беларускай? А чаму не ў аўстралійскай, кіпрыёцкай, амерыканскай ці паўднёвакарэйскай? Гэта ўжо транснацыянальная кампанія з офісамі і супрацоўнікамі ў дванаццаці краінах свету.

Не вельмі схільная да адкрытых праяў палітычнай актыўнасці айчынная "багема-буржуазія" і на індывідуальным узроўні. Я аднойчы патрапіў у яе гурму. У зале гастрапаба, куды хлопцы з навакольных офісаў прыходзяць адвячоркам пасля працы паглядзець футбол за кухлем чэшскага ці нямецкага піва, перад пачаткам матча ўключылі тэленавіны. На экране Аляксандр Лукашэнка даваў прачуханец урадоўцам і нейкім сівым і лысым гаспадарнікам. А тыя, не ўзнімаючы ад стала вачэй, з напятымі тварамі нешта нервова крэмзалі ў сваіх нататніках.

— Дзівіцеся, хлопцы, як ён дзядоў шыхтуе!.. — даўмеўся ўрэшце нехта зірнуць у велізарны пляскаты тэлевізар каля сцяны залы.

— Ага-ага! Глядзіце, як прыкольна!..

Го-го-го!.. Га-га-га!.. Ні табе праведнага апазіцыйнага гневу з выпадку яшчэ адной праявы дыктатуры, ні, тым больш, сакральнага прыдыхання з нагоды новага з'яўлення Бацькі перад народам... Так глядзяць на "ютубе" які-небудзь ролік пра бландзінку, што ніяк не ўшчэміцца на сваім джыпе ў шчыліну паміж машынамі на паркоўцы. Хутка пачалася трансляцыя матча — і ўсё ўбачанае раней на экране імгненна вылецела з маладых галоў. Адчувалася, што для іх гэта не найважнейшая падзея дня, як пра тое даводзіў тэлевядучы, а шараговая "ржачная" гісторыя, ніякім бокам не датычная да жыцця прысутных у пабе.

Гэтая моладзь ужо стварыла вольную Беларусь на сваім працоўным месцы і ў сваім асабістым жыцці. Дзякуючы сучасным інфармацыйным тэхналогіям, уласным мазгам і крэатыўнасці, яна ўжо жыве без агульнанацыянальнага Бацькі. Вядома, быць абсалютна незалежным ад беларускай рэчаіснасці ўсё ж немагчыма нават самым заўзятым інтэрнэтчыкам. Яна прыходзіць у іх свет і шалёнымі банкаўскімі працэнтамі пры спробе ўзяць крэдыт на набыццё ўласнага жылля ці "тачкі", і з'явай міліцыі на прэзентацыю кнігі любімага пісьменніка, і праз незлічоныя іншыя эканамічныя, сацыяльныя, палітычныя, маральна-этычныя, юрыдычныя, бюракратычныя капіляры, якімі густа працята сучаснае беларускае жыццё. Здараецца нават, што нашу "багема-буржуазію" балюча чапляюць меры, скіраваныя ініцыятарамі зусім не на яе.

— Як толькі супраць нейкіх беларускіх чыноўнікаў, прадпрыемстваў ці банкаў Захад уводзіць санкцыі, дык я адразу губляю частку заказаў, — распавёў мне фотамастак Ягор. Фотамастацтва для яго занятак для душы і творчай самарэалізацыі. А на хлеб надзённы Ягор зарабляе ў інтэрнэце фоташопам. Рынак гэты бязмежны. Усе фірмы зямной кулі прагнуць, каб іх тавары выглядалі на камп'ютарных маніторах спажыўцоў і ў рэкламных праспектах як мага больш прывабнымі. Пра Беларусь більд-рэдактары бальшыні гэтых кампаній калі штосьці і чулі, дык толькі напаўвуха. А тут — "апошні дыктатар Еўропы", "палітвязні", "асобы, вінаватыя ў пераследзе апазіцыі"... Усё гэта, вядома ж, не пра Ягора. Але занятым більд-рэдактарам разбірацца і ўдумвацца няма калі. Свет інтэрнэту неабсяжны, можна абысціся і без беларуса. Так, на ўсялякі выпадак...

— Ну і як ты выкручваешся з гэтай сітуацыі?

— Зарэгістраваўся індывідуальным прадпрымальнікам яшчэ і ў Літве, — прызнаўся Ягор. — Плачу падаткі дзвюм дзяржавам — сваёй і суседняй. Затое, калі пачынаецца чарговая калатнеча вакол нашага чынавенства, маю магчымасць прапаноўваць свае паслугі як літоўскі бізнесмен.

Высокая мабільнасць, якой пазбаўлены працаўнікі традыцыйных галін, і ёсць аснова асабістай свабоды "крэатыўшчыкаў" у беларускіх умовах. Ягор ужо жыў колькі месяцаў у Тайландзе, ратуючыся ад панылай хлюпоты, якая ў іншы год доўжыцца ў нашых мясцінах з верасня па май. Калі дапячэ, нішто не перашкодзіць яму перажыць у выраі і слоту палітычную. На Зямлі шмат прывабных мясцін, дзе жыццё не даражэй, чым у Беларусі, а карміцель-інтэрнэт куды больш хуткі і танны, чым у нас.

Таму многія апазіцыянеры са стажам, з якімі давялося гутарыць, рыхтуючы гэты артыкул, не бачаць у крэатыўнай супольнасці апірышча для перамен у краіне. А некаторыя, самыя радыкальныя, увогуле скрыва паглядаюць. Маўляў, лягчэй вярблюду пралезці праз ігольнае вушка, чым зацятаму інтэрнэтчыку адарваць свой азадак ад крэсла за камп'ютарам, каб выйсці з пратэстам на плошчу.

Аднак на гэта ў "бо-бо" ёсць свой адказ.

### Развітанне з карнавалам

Сапраўды, куды з нашага жыцця падзеўся той яскравы пратэстны карнавал — з шматлюднымі шэсцямі, маляўнічымі калонамі, бардаўскімі песнямі, барабанным пошчакам, палымянымі прамовамі, які, здаецца, яшчэ зусім нядаўна віраваў на вуліцах і плошчах Мінска ды і іншых беларускіх гарадоў? Я раз-пораз чую, як абмяркоўвае гэтую тэму са сваімі сябрамі і калегамі мой 24-гадовы сын — капірайтар буйной ІТ-кампаніі. Было б несправядліва залічваць гэтых хлопцаў і дзяўчат у лік баязліўцаў ці "пафігістаў", абыякавых да лёсу краіны. Мой сын, да прыкладу, вучыўся ў коласаўскім ліцэі, прычым у гады, калі той быў ужо зачынены ўладамі і працаваў у падполлі. У сакавіку 2006 года знаходзіўся сярод абаронцаў "Пляца Волі імя Кастуся Каліноўскага", а ў снежні 2010-га — сярод пратэстоўцаў на плошчы перад Домам урада. Падобныя старонкі ў жыцці ёсць і ў ягоных сяброў. Але цяпер з былым рамантызмам пакончана.

— Тымі "майданамі" мы проста падаравалі пануючаму рэжыму палітвязняў, якіх ён скарыстаў як тавар у сваім гандлі з Захадам, — лічаць маладыя "крэатыўшчыкі". Ад сваіх нацыянальных і дэмакратычных поглядаў яны зусім не адмовіліся. Яны проста супраць бессэнсоўнага мазахісцкага біцця галавой у жалезабетонную сцяну на плошчы. Тым больш што ніякага іншага варыянту ўдзельнікам вулічных акцый апазіцыя і не прапаноўвае.

Як на мой погляд, дык з гэтымі прадстаўнікамі "бо-бо" цяжка не пагадзіцца. Дарэчы, з-за ўсё больш жаласнага стану традыцыйнай айчыннай прамысловасці зусім не выключана, што ў недалёкім часе здзейсніцца запаветная мара многіх апазіцыянераў і 100 тысяч рабочых зноў выйдуць на плошчу да Дома ўрада, як гэта было ў 1991 годзе. Ужо ёсць нямала прыкладаў скарачэння працоўнага тыдня на прадпрыемствах, затрымак з выдачай зарплаты і нават выплаты яе "натурай", якую ўяўляе сабой нікому не патрэбная прадукцыя ўласнай вытворчасці. Але няцяжка ўявіць, што запатрабуюць на той плошчы даведзеныя да адчаю людзі. Ды тое ж, што і 23 гады таму, — заробак, на які можна нармалёва пражыць ім і іхнім сем'ям. Аднак трагедыя ў тым, што такі заробак адсталыя беларускія прадпрыемствы забяспечыць не ў стане. Таксама няцяжка ўявіць і чым скончыцца такі майдан, нават самы пераможны. Зноў-такі з'яўленнем "Бацькі нацыі". У яго можа быць іншае прозвішча, але функцыя застанецца ранейшая: здабыць ці адабраць, выкруціць ці выпрасіць, але абавязкова даць. Бо рабочаму з завода, чые вырабы не прадаюцца, гаротніку-калгасніку, не кажучы ўжо пра пенсіянера, без такіх дарункаў не выжыць. Значыць, зноў ніякіх якасных перамен у жыцці краіны. Гэта ў лепшым яшчэ выпадку. У горшым пасля майдана можна дачакацца "зялёных чалавечкаў" у беларускіх гарадах, як гэта нядаўна адбывалася на поўдні і ўсходзе Украіны.

Рэвалюцыя — такая з'ява, якая рэзка пагаршае жыццё, у тым ліку і саміх рэвалюцыянераў. "Крэатыўны клас" гэта добра ўсведамляе. А самае галоўнае — бачыць альтэрнатыву барыкаднаму шляху.

— Беларусь трэба мяняць знутры — структуру яе эканомікі, заняткі, лад жыцця і каштоўнасныя арыенціры людзей, — упэўнены носьбіты ідэй "бо-бо", з якімі давялося абменьвацца думкамі пра будучыню краіны. Пачынаць, лічаць яны, варта з сябе, са сваёй справы і са свайго асяродку. Зменіцца грамадства — зменіцца і склад улады разам з прынцыпамі і зместам яе дзейнасці. Постіндустрыяльнай інфармацыйнай супольнасцю немагчыма кіраваць бізуном. А сацыяльная і культурная глеба для яе фарміравання ў краіне ўжо стварылася. Дзве трэці нашых суайчыннікаў — гараджане, а большасць моладзі — гараджане не ў першым пакаленні. Нямала хлопцаў і дзяўчат пажылі і павучыліся ў Еўропе і вярнуліся ў Беларусь. Да прыкладу, сярод выпускнікоў Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта ў Вільнюсе тых, хто вярнуўся, — палова. Яны, вядома ж, найбольш гуртуюцца ў Мінску. І з кожным годам іхні ўплыў у розных сферах тутэйшага маладзёжнага жыцця ўсё больш адчувальны.

### Змяняць краіну можна і за тысячы кіламетраў ад яе

Апазіцыянерам-рамантыкам, з якімі таксама даводзілася размаўляць, чуць усе гэтыя разважанні крыху крыўдна і прыкра. А мо і не крыху. Яны ўпарта вывешваюць бел-чырвона-белыя сцягі, імкнуцца ўсяляк падтрымліваць у народзе нацыянальна-адраджэнскі дух, іх за гэтую ахвярнасць саджаюць на "суткі", выганяюць з працы і вучобы... А тут ні з пушчы, ні з поля з'явіўся рой маладых людзей, асабісты жыццёвы поспех якіх, аказваецца, рухае наперад і грамадства. Выходзіць, можна месяцамі сядзець не на Акрэсціна, а дзе-небудзь на Гоа, і змяняць краіну? Не, да гэтага айчынная апазіцыйная думка яшчэ не даспела. Тыповая рэакцыя — неўразуменне. Маўляў, мы таксама за тое, каб паспяховых людзей у нашай краіне стала болей, але пры чым той жа Viber да Беларусі?

— Гіне мова, нацыянальная культура, сякерай над дзяржавай вісіць залежнасць ад Расіі, дыктатар ужо дваццаць год правіць і збіраецца кіраваць далей, дэмакратыі і духу няма — а вы тут пра нейкія ўсясветныя гульні ў танкі ды пра смартфонавы аналаг "Скайпа"... Не трэба, шаноўны, блытаць кіслае з зялёным! — ад душы выказаўся адзін з апазіцыянераў, які акурат перад нашай гутаркай у чарговы раз адседзеў у "бамжатніку" за сцяг.

Мяркую, аднак, што блытаніны тут няма.

Усходні сусед душыць у братніх абдымках? Дык жа залежнасць ад яго ў немалой ступені грунтуецца на дэфіцыце ўласных энергарэсурсаў, якія без меры жаруць састарэлыя прадпрыемствы. Эканоміцы ж ведаў і звязанай з ёй вытворчасці высокатэхналагічных тавараў і паслуг не трэба столькі расійскага газу, як сапселаму заводу. ІТ-кампаніі ўвогуле дастаткова для працы электрычнасці ў офісных лямпачках і разетках ды цёплых батарэй у халодную пару года.

Дэмакратыі бракуе? Сучасныя кампаніі і тут ствараюць свой аазіс. Калі традыцыйныя прадпрыемствы пабудаваны па жорсткай іерархічнай схеме, дзе паміж дырэктарам і рабочым дыстанцыя такая ж, як у войску паміж генералам і салдатам, дык у галінах бізнесу, дзе шчыруюць прадстаўнікі веку інфармацыйных тэхналогій, адрозніць дырэктара ад спецыяліста часцяком вельмі няпроста. Такога кшталту кампаніі нярэдка ствараюць сеткавыя сістэмы, выдатна прыстасаваныя для дэцэнтралізаванага нефармальнага супрацоўніцтва. Пры гэтым не мае істотнага значэння, у якой кропцы планеты знаходзіцца далучаны да выканання праекта праграміст, дызайнер ці капірайтар. У такім саюзе роўных і вольных творцаў субардынацыя — справа дзясятая. Тут куды важней творчая свабода, радыкальныя эксперыменты, адмова ад старых нормаў і штампаў. Тут усяляк культывуецца прага новага. Інакш у сусвеце інтэрнэту з ягоным мноствам варыянтаў і прапаноў зацвердзіцца немагчыма.

Што тычыцца стаўлення да беларускай мовы, гісторыі і культуры, дык ужо даўно заўважана, што менавіта крэатыўная моладзь найперш імкнецца далучыцца да нацыянальнай скарбонкі. Сярод знаёмых мне прадстаўнікоў "бо-бо" нямала прынцыпова беларускамоўных. У некаторых фірмах апошнім часам пачалі ствараць своеасаблівыя нефармальныя лятучыя ўніверсітэты, куды на сустрэчы з персаналам запрашаюць слынных прадстаўнікоў нацыянальнай эліты — культуролагаў, мастацтвазнаўцаў, гісторыкаў, літаратараў... У цёплыя дні аповед пра беларускую даўніну звычайна адбываецца каля сцен Лідскага замка, у магілёўскім Падніколлі ці яшчэ ў якой-небудзь славутай мясціне, якую кожнаму беларусу варта пабачыць хоць бы раз за жыццё.

Мала таго, шэраг сучасных кампаній і банкаў пазіцыянуюць ужо сябе не толькі як камерцыйныя ці фінансавыя структуры, а як грамадскія рухі з актуальнымі культурна-сацыяльнымі мэтамі. Паслядоўна і шматгранна ўжывае нацыянальныя адметнасці ў сваёй дзейнасці мабільны аператар Velcom. Вось і сёлета ён запусціў бясплатную праграму, якая дазваляе ўладальнікам смартфонаў атрымаць раскладку клавіятуры на беларускай мове. "Белгазпрамбанк" збірае карціны мастакоў Парыжскай школы з Беларусі і ладзіць арт-выставы ў нашай краіне і за яе межамі. Wargaming знаходзіць і рэстаўруе танкі мінулых войнаў і імкнецца пашыраць гістарычныя веды праз свае гульні. Школа замежных моў Streamline і рэкламная агенцыя "Панда" штогод праводзяць для мінчан міжнародны фестываль 3D-карцін...

Пэўна, усё ж трэба пагадзіцца з "бо-бо": лозунгавы перыяд у сваім руху ў Еўропу наша краіна ўжо перажыла. Транспаранты з вуліц зніклі, затое з'явіліся канкрэтныя справы, якія распаўсюджваюць і замацоўваюць у нашым жыцці асновы новай для сучасных беларусаў цывілізацыі.

Відавочна і тое, што крэатыўны клас з яго абвостраным попытам на еўрапейскасць хутка фарміруецца і заўважна праяўляецца пакуль толькі ў Мінску і ў буйных гарадах краіны. "Бо-бо" яшчэ ў меншасці. Але менавіта "крэатыўшчыкі" нясуць цяпер у Беларусь надзею на доўгачаканыя перамены.

НА СВАЕ ВОЧЫ

# Як я ў Львове бандэраўцаў шукаў

*Карэспандэнт "Народнай Волі" наведаў горад, дзе, паводле сведчанняў расійскіх СМІ, жывуць фашысты.*

Цягнік Кіеў—Львоў адпраўляўся з украінскай сталіцы каля 23.00. У купэ маімі суседкамі аказаліся жанчыны са Львова, якія ў Кіеве наведвалі сваіх дзяцей. Пазнаёміліся, разгаварыліся...

— *Данілаўна,* — коратка прадставілася адна з іх, якая працуе ў санаторыі пад Львовам.

— *Раней у нас турыстаў было вельмі шмат, але зараз колькасць зменшылася,* — шчыра распавядае яна. — *Многія баяцца, нас жа ў расійскіх СМІ фашыстамі называюць...*

Ці прыязджаюць адпачываць расіяне? Данілаўна са смехам успамінае адну гісторыю, якая адбылася гэтым летам:

— *Расіяне да нас ужо не едуць, але ў ліпені мы даведалася, што ў санаторый вырашыў завітаць на адпачынак масквіч. І вось сустракаць госця выходзіць увесь персанал! У вышыванках, з хлебам-соллю... Той уваходзіць у санаторый, а ўсе разам дружна як выгукнуць: "Слава герою! Герою слава!" Масквіч аж чамаданы на падлогу выпусціў... А што, хіба не герой? Для расіяніна прыехаць у Львоў пасля масавага зambіравання — гэта маленькі подзвіг. У нас жа, паводле сведчанняў расійскіх СМІ, дзяцей ядуць і ледзь не кроў п'юць тых, хто размаўляе на рускай мове. Ведаеце, гэты масквіч, калі дадому з'язджаў, сказаў мне: "Данілаўна, пабольш бы ў Маскве такіх "фашыстаў" і "людаедаў", як тут". Я яму ў адказ: "Ты гэта не мне, а сваім блізкім і суайчыннікам раскажы. Хоць наўрад ці яны цябе зразумеюць. Скажуць, што завербавалі".*

Што да бандэраўцаў, то я, як кажуць, вырашыў не адкладваць справу ў доўгую скрыню і пасля прыезду ў Львоў ужо ў 8 гадзін раніцы выйшаў на іх пошук.



Праўда, адразу ж упэўніўся, што на рускай мове ў Львове можна абсалютна свабодна размаўляць і ніхто на вас за гэта скоса не паглядзіць. Больш за тое — людзі, нягледзячы на ўсю складанасць сітуацыі, у якой знаходзяцца, — ветлівыя і добразычлівыя, стараюцца не губляць аптымізм, жартуюць.

— *Мы толькі дзяцей ядзім, а якое ж вы дзіця?* — пасмяяўся з мяне гандляр сувенірамі Алег.

Сярод сувенірнай прадукцыі шмат на патрыятычную і антырасійскую тэматыку. Прадаюць украінскія стужкі і сцягі, "залатыя батоны" Януковіча, асобнае месца адведзена кіраўніку расійскай дзяржавы. Можна купіць і з'есці шакаладнага Пуціна, набыць маленькі дыванок з выявай прэзідэнта Расіі і надпісам "Выцірайце ногі", прысутнічае Уладзімір Уладзіміравіч і на рулонах туалетнай паперы.

— *А за што яго любіць?* — без злосці кажа Алег. — *За тое, што ўкраінцы гінуць штодзень? Што хтосьці прыйшоў на чужую зямлю і цынічна кажа, што "нас там няма"? Што б вы рабілі?*

Суразмоўца мог бы, напэўна, доўга выказваць сваю пазіцыю па балючым пытанні, але мне трэба ісці далей — раблю чарговую спробу знайсці бандэраўцаў у мясцовых кафэ (у рэстаран "Крыіўка" не заходжу знарок, бо пра гэта адметнае месца, дзе паролем служаць словы "Героям слава!", напэўна, ведае кожны турыст). І зноў мае пошукі беспаспяховыя. У невялічкім кафэ афіцыянты аднолькава цудоўна разумеюць і рускую, і ўкраінскую, і англійскую мовы. Ніякай агрэсіі, нянавісці, нават калі і пачуюць рускае слова. Праўда, калі я загаварыў на беларускай мове, то чамусьці адзначылі, што ў мяне акцэнт "чалавека з Валыні". Дарэчы, абед (боршч з пампушкамі, плоў, дзве катлеты і сок) абышоўся ўсяго ў 40 грывень (каля 28 тысяч беларускіх рублёў). Зусім танна. Да слова, на многіх магазінах можна знайсці аб'явы: "Верым ва Украіну! Верым у грыўню! Кошты не змяняем!" Такая вось салідарнасць.






А вось ураженні ад наведвання кафэ ў Львове аднаго расійскага журналіста, які той напісаў у сваім матэрыяле "Звычайны фашызм", апублікаваным 11 лістапада: *"Зайдя позавтракать в кафе, я был шокирован подборкой песен, доносившихся из колонок. Ровно год назад в том же заведении играла европейская попса, а сейчас звучали наспех записанные песенки на мове с весьма печальным месседжем — настали лихие часы, надо защищать Украину, умереть в бою не страшно, погибнешь за Украину и станешь героем. Львовян подвергают мощнейшей идеологической обработке без всякой прессы... Львов поразила чума нацизма. Очень трудно оставаться адекватным, живя в такой обстановке. Львов сегодня — это город фашистского безумия, где белое называют черным и наоборот. Волонтерка подкатила ко мне на роликах и чуть ли не потребовала от меня кинуть пару купюр в коробочку с надписью "Украина воюет! Помогите ей!". Я ничего не дал ей, а вот сидящие на соседних лавочках охотно открывали кошельки и бросали гривны в коробочку. Люди, желающие мира, не будут спонсировать войну из своих карманов, но эта мысль сегодня, увы, непонятна львовянам".*

Тут, як кажуць, без каментарыяў. Гэты чалавек усё, што хацеў знайсці, знайшоў для сябе ўжо даўно.

Але я таксама бачыў у цэнтры горада шмат людзей, якія збіралі грошы для вайскоўцаў, што змагаюцца за сваю краіну. Бачыў маладую жанчыну, якая з маленькім хлопчыкам на руках стаяла на каленях і малілася, каб муж і бацька вярнуўся дадому жывы, а ў краіне былі мір і спакой. Назіраў, як праводзілі ў апошні шлях свайго сябра маладыя людзі. З дынамікаў машыны, якая пад'ехала да Опернага тэатра на праспекце Свабоды, гучаў на ўсю плошчу гімн Украіны, людзі, якія знаходзіліся побач, спыняліся, прыкладвалі руку да сэрца і спявалі.

Я бачыў не бандэраўцаў, а людзей, якіх гора толькі з'яднала...

**Алесь СІВЫ.**

*Львоў—Мінск.*

КОРОТКО

## Россия столкнулась с двумя вызовами

Российская экономика из-за санкций и снижения цен на нефть теряет около 140 миллиардов долларов в год, сообщил министр финансов Антон Силуанов. Выступая на форуме Финансовой академии при правительстве России, министр отметил, что экономика России в этом году столкнулась с двумя основными вызовами: снижение цен на нефть и геополитическая ситуация.

## Норвегия прерывает политическое сотрудничество с Россией

Эту новость в стране узнали из интервью премьер-министра Норвегии **Эрны Солберг** украинскому изданию "Зеркало недели". По словам премьера, Норвегия отзывает своих военных экспертов, работавших в области укрепления мер доверия, объявлено также об отмене совместных военных маневров. "Это связано с ситуацией в Украине", — заявила глава норвежского правительства.

## В Украине отметили 81-ю годовщину голодомора 1932—1933 годов

Тогда от голода погибли миллионы человек. В памятных церемониях в Киеве принял участие украинский президент **Петр Порошенко,** по словам которого, такой трагедии не произошло бы, если бы Украина шла независимым путем и была демократическим государством.

Порошенко: *"С врагом, который ворвался на нашу землю, мы иначе смотрим и на события 1932—1933 годов. То была такая же настоящая и такая же необъявленная война против Украины".*

Массовый голод в СССР охватил также территорию Беларуси, Северного Кавказа, Поволжья, Южного Урала, Западной Сибири, Казахстана. В 2006 году Верховная Рада Украины официально признала голодомор геноцидом украинского народа.

## Меркель закрыла «Петербургский диалог» на «переучет»

На фоне политических разногласий с Москвой по Украине правительство ФРГ попросило не проводить встречу германо-российского форума "Петербургский диалог". Это произошло впервые за историю "Петербургского диалога", основанного в 2001 году президентом России **Владимиром Путиным** и канцлером Германии **Герхардом Шрёдером**. По сложившейся традиции форум проходит параллельно с германо-российскими межправительственными консультациями.

## В Тунисе прошли первые президентские выборы после свержения диктатуры

Они ознаменовали долгожданное завершение периода перехода к демократии, начавшегося после свержения диктатора **Зин Эль-Абидина Бен Али.** Организатор предвыборной кампании 87-летний **Беджи Каида Эссебси** заявил, что этот ветеран-политик лидирует среди кандидатов, однако, скорее всего, потребуется второй тур, назначенный на следующий месяц.

Кандидатов более двух десятков. Как отмечается, шансы на победу высоки и у нынешнего президента страны **Монсефа Марзуки.**

## На МКС впервые отправилась итальянка



Астронавт Европейского космического агентства (ESA) **Саманта Кристофоретти** стала первой итальянкой, отправившейся в космос. Вместе с коллегами из России и США — **Антоном Шкаплеровым** и **Терри Вёртсом** — Кристофоретти находится на борту космического корабля "Союз ТМА-15М". Он стартовал на Международной космической станции (МКС) с космодрома Байконур в понедельник, 24 ноября, в 00 часов 01 минуту по московскому времени, сообщила пресс-служба Федерального космического агентства РФ.

КАФЕ НА КРЕЩАТИКЕ



Александр ФЕДУТА

## После прочтения — осуществить

**К годовщине Майдана бывшая украинская оппозиция, а ныне — еще не оформленная до конца (новый состав Верховной Рады еще не заседал), но уже очевидно сформировавшаяся правящая парламентская коалиция проевропейских демократических партий — подошла подготовленной. На всеобщее обсуждение вынесен документ, аналогичного которому мы еще не видели. Речь — о проекте Коалиционного соглашения. Фактически — о проекте деятельности будущего украинского правительства.**

**Никто из моих ровесников не читал программу "500 дней", разработанную некогда для Бориса Ельцина Григорием Явлинским. Не читал — но запомнили: за 500 дней можно реформировать экономику, изменить страну, сделать ее новой, мобильной, способной двигаться вперед, а не заниматься сомнительными физическими упражнениями, то поднимаясь с колен, то падая и отжимаясь от заплеванного пола.**

**Понятно, что полную программу деятельности любого правительства читают только специалисты и чиновники. Разрабатывают ее вовсе не для любителей политической публицистики. И украинские партии, берущие на себя ответственность за будущее своей страны, не собирались создавать документ, на основании которого прямо завтра же, с места в карьер, пустились бы работать правительственные чиновники. Нет, не о том речь. Коалиционное соглашение — это вехи, ориентироваться на которые и берут на себя обязанность партии, делегирующие полномочия Кабинету министров Украины.**

**И вот здесь нужно сказать честно: Коалиционное соглашение — беспрецедентный документ. Впервые на 48 страницах избирателям говорят не только о принципах, которыми будет руководствоваться парламентское большинство, но и об определенных параметрах, позволяющих судить, выполняют депутаты свои обещания или же нет. Причем речь вовсе не идет о покраске заборов, ремонте поликлиник и защите детских площадок и скверов от незаконных застроек. Речь идет реально об основах экономической, внутренней, внешней и социальной политики.**

**Документ состоит из далеко не в равной степени проработанных разделов. Например, раздел 12 "Реформа сельского хозяйства" состоит из пяти практически лозунговых пунктов. Хотя и в них содержится конкретика: например, обещание снизить количество документов, требуемых от лица или фирмы, желающих принять участие в реализации государственной программы (то есть — в получении под эти цели бюджетного финансирования); или — отказ от государственного регулирования цен на сельскохозяйственную продукцию.**

**Зато раздел 7 — "Дерегулирование и развитие предпринимательства" — содержит название налогов, за счет ликвидации которых предполагается ослабить нагрузку на предприятие и предпринимателя, размер, до которого планируется понизить социальный налог, направления оптимизации налоговой реформы.**

**Отдельные разделы проработаны даже с учетом календаря работы парламента и правительства. Указываются годы и месяцы принятия того или иного решения — особенно там, где речь касается весьма болезненных для Украины (а пожалуй, и для всего постсоветского пространства) вопросов судебной реформы, реформы МВД и так далее.**

**Учитывая, что эти 48 страниц текста прорабатывались менее месяца представителями политических сил, которые еще вчера конкурировали между собой, да и сейчас продолжают очень ревностно относиться к популярности друг друга, могу лишь заметить: то, что их написали менее чем за месяц, при постоянном давлении прессы и гражданского общества, выплесках взаимного недовольства в интернет, в условиях, когда основные политические акторы еще и управлением государством занимались (все-таки работают президентом и премьер-министром) — так это быстро управились!**

**На этом фоне бесконечная игра нашей родной оппозиции в обсуждение процедурных вопросов игрой и остается.**

**Конечно, украинским политикам помогает осознание того, что работать все-таки придется, что народ ждет, а Запад, от позиции которого зависит в том числе и стабильность гривны, присматривается. Спорить, оказывается, можно до бесконечности лишь тогда, когда ты прекрасно знаешь, что отвечать все равно не придется. А практическая ответственность быстро воплощается и в конкретную угрозу. Эта угроза — батальоны добровольцев — участников Антитеррористической операции, которые после возвращения с передовой могут ведь и спросить: а чем тут занимались господа политики?**

**В нашем случае спрашивать некому и не с кого. Белорусские демократы, к счастью для самих себя, во власть вернутся не скоро. Потому, надеюсь, регламент формирования коалиции и выдвижения единых кандидатов на посты министерских секретарш обсудить они успеют в совершенстве.**

АПЫТАНКА

## *Што думаюць жыхары Львова аб сітуацыі ва Украіне і той пазіцыі, якую займаюць беларускія ўлады ў дачыненні да гэтай сітуацыі?*

**Аляксандр ГАРАДЗЕНСКІ, пенсіянер:**



— На Данбасе адбываецца звычайная акупацыя. І гэта трэба было прадбачыць. Расія любіць жыць за кошт рэсурсаў. Сыравінная імперыя. Яна не хоча выкарыстоўваць свой чалавечы патэнцыял, вялізныя землі, многія з якіх стаяць нават неапрацаваныя. Не хоча жыць за кошт сваёй працы. Ім увесь час нешта патрэбна ў іншых краінах.

А што тычыцца Беларусі, то мне здаецца, што вашы ўлады займаюць прарасійскую пазіцыю, хоць, напэўна, таксама не хочуць поўнасцю ляжаць пад Крамлём.

Дарэчы, я ў савецкі час служыў у Беларусі, у Бабруйску, і да гэтага часу памятаю радкі з аднаго верша:

*Сосны, сосны... На ўзлеску*
*Расцвіталі тут калісь пралескі,*
*І гучалі нашы галасы,*
*Дзе палалі цветам верасы.*
*Полымя ружовых верасоў.*
*Я да соснаў, пэўна б, не прыйшоў,*
*Калі б лета сум мой загаіла,*
*Калі б восень зноў не запаліла*
*Полымя ружовых верасоў...*

**Галіна ШАПАВАЛА, спецыяліст аўтамайстэрні:**



— У краіне — вайна. Яшчэ год таму ніхто і ўявіць не мог, што такое будзе. У Львове няма ваенных дзеянняў, але подых вайны таксама адчуваецца. На фронт едуць нашы знаёмыя, родныя... Некаторыя не вяртаюцца. Мой хлопец зараз ваюе, але ваюе за сваю зямлю, за родную Украіну. Праўда на нашым баку. Хацелася б, каб і беларусы нас падтрымалі таксама.

**Валянціна ЯЦЮК, пенсіянерка:**



— Цяжка ўсім. І тым, хто на вайне, і мірным жыхарам. У мяне, напрыклад, пенсія — 1170 грывень (каля 75 долараў), хоць я 30 гадоў адпрацавала ў ВНУ не на самай нізкай пасадзе.

А пазіцыя Лукашэнкі мне імпануе. Я некалькі разоў чула яго выступленні, і ён быццам бы падтрымлівае і спачувае Украіне. Добра хоць так, бо ўсе ж разумеюць, што вашы ўлады залежныя ад Масквы ў фінансавым плане. Але ўсе мы спадзяёмся, што Лукашэнка не дазволіць, каб з тэрыторыі Беларусі ва Украіну ўвайшлі расійскія войскі.

А тое, што робіць сёння Расія з Украінай, — гэта проста жах. Людзей зрабілі ворагамі. У мяне сяброўка са Львова пасварылася з усімі сваімі роднымі ў Расіі, таму што тыя пераконваюць, як ёй тут дрэнна жывецца з "бандэраўцамі". Хоць мы не можам злавацца на ўсіх расіян. Людзей замбіравалі, іх проста шкада...

**Іван ЛЯСНЯК, студэнт:**



— Усе мы хочам толькі аднаго — каб Расія не лезла ў справы Украіны. З усім астатнім самі разбяромся...

НА ЗАМЕТКУ

## *У женщин память лучше. А карьера хуже*

*Европейские ученые провели исследование с целью изучить различия в интеллектуальных способностях полов. Оказалось, что у представителей сильного пола действительно более выдающиеся способности в математических науках. Однако что касается памяти, то здесь в выигрыше оказываются женщины.*

Ученые считают, что успех мужчин во многом объясняется лучшим качеством образования, которое они получают.

Что касается словарного запаса, то здесь полученные данные оказались примерно одинаковыми.

**Кирилл БУБНОВ.**

СТОП-КАДР!

## Коальная дипломатия

Прежде чем заняться серьезными деловыми вопросами, мировая политическая элита отправилась на сумчатую терапию. Во время фотосессии на полях саммита G20, проходившего в Брисбене коале по имени Джимбелунг и ее приятелю удалось познакомиться сразу с несколькими самыми влиятельными людьми мира. Кому-то звери явно симпатизировали, а кого-то немного испугались.



